Козік, Л. А. Узаемаадносіны партыйна-дзяржаўных улад і творчага асяроддзя ў Польшчы ў сярэдзіне 1960-х гг. (На прыкладзе гісторыі «Ліста 34-х») / Л. А. Козік // Российские и славянские исследования: науч. сб. Вып. 6 / редкол.: А. П. Сальков, О. А. Яновский (отв. редакторы) [и др.]. — Минск БГУ, 2011. — С. 196 – 204

**Л. А. Козік**

# УЗАЕМААДНОСІНЫ ПАРТЫЙНА-ДЗЯРЖАЎНЫХ УЛАД І ТВОРЧАГА АСЯРОДДЗЯ Ў ПОЛЬШЧЫ Ў СЯРЭДЗІНЕ 1960-х гг. (На прыкладзе гісторыі «Ліста 34-х»)

На пачатку 1960-х гг. адносіны ўлады і інтэлігенцыі ў Польшчы імкліва пагаршаліся. Прычыны гэтага былі розныя. У першую чаргу расчараванне дзеяннямі лідара Польскай аб'яднанай рабочай партыі (ПАРП) У. Гамулкі, якога ў 1956 г. актыўна падтрымала творчае асяроддзе. Яно шчыра паверыла ў лозунгі і абяцанні, якія ён раздаваў, у магчымасць лібералізацыі сістэмы, пашырэнне свабоды слова і змяншэнне ўплыву цэнзуры. Але падзеі канца 1950-х — пачатку 1960-х гг. сведчылі аб зваротным. У 1957 г. быў ліквідаваны штотыднёвік «Па просту» — рупар перамен у сярэдзіне 1950-х гг., забаронена выданне новых літаратурных часопісаў «Еўропа» і «Жэч», у 1959 г. адбылася змена старшыні Саюза польскіх пісьменнікаў (замест «рэвізіяніста» А. Слонімскага быў «абраны» лаяльны да ўлады Я. Івашкевіч), у 1963 г. былі закрыты грамадска-культурныя выданні «Нова культура» і «Пшэглёнд культуральны», якія дазвалялі крытычныя выказванні аб існуючай у Польшчы рэчаіснасці, а на іх аснове паўстаў праваўладны штотыднёвік «Культура». Пра пасіленне ціску на культуру сведчыла і прамова першага сакратара ЦК ПАРП У. Гамулкі на XIII пленуме партыі (4— 6 ліпеня 1963 г.) [гл. 1]. Дадатковым фактарам незадаволенасці творчай інтэлігенцыі на пачатку 1960-х гг. стала абмежаванне паперы на выданне кніг і пасіленне ўмяшальніцтва цэнзуры. Менавіта ў такіх умовах на рубяжы 1963—1964 гг. узнікла ідэя выказаць сваю заклапочанасць існуючай у краіне сітуацыяй у форме ліста да прэм'ер-міністра. У сувязі з тым, што пад тэкстам стаялі подпісы 34 вядомых дзеячаў культуры і навукі, ён стаў вядомы як «Ліст 34-х».

Гісторыя гэтага дакумента неаднаразова выклікала інтарэс даследчыкаў. У значнай ступені гэта было звязана з рэзанансам, які ён набыў у краіне і за яе межамі. Адным з першых у сутнасці справы паспрабаваў разабрацца польскі гісторык Е. Эйслер [2]. Абапіраючыся пераважна на перыядычныя выданні і архіўныя матэрыялы, ён паказаў гісторыю ўзнікнення ідэі напісання ліста да прэм'ер-міністра, кулісы збору подпісаў і рэакцыю афіцыйнай улады на сам дакумент і тое, што яго змест стаў вядомы за мяжой. У далейшым разглядаемая праблема часткова знаходзіла адлюстраванне ў працах А. Фрышке [3], К. Ракіцкага [4], А. Біконт [5] і інш. У расійскай гістарыяграфіі гэты сюжэт у гісторыі палітычнай апазіцыі ў пасляваеннай Польшчы быў апісаны В. Валабуевым [6].

На сённяшні дзень веды пра падзеі вакол «Ліста 34-х» узбагачаюцца новымі фактамі. Гэта становіцца магчымым дзякуючы адкрытым архіўным фондам у Польшчы. Пераважная колькасць дакументаў захоўваецца ў зборах Аддзела культуры і Сакратарыята ЦК ПАРП, якія змяшчаюцца ў Архіве новых актаў (Варшава). Сярод іх стэнаграмы пасяджэнняў партыйных і творчых арганізацый, даведкі з характарыстыкай настрояў і сітуацыі ў творчым асяроддзі і інш. Нейкім чынам гэты матэрыял дапаўняюць зборы архіва Інстытута нацыянальнай памяці, дзе знаходзяцца дакументы былых спецслужбаў. Яны дазваляюць больш дэтальна прааналізаваць працэс узнікнення ідэі напісання ліста да прэм'ер-міністра, высветліць умовы перадачы яго копіі за мяжу, ахарактарызаваць настроі грамадства.

**Гісторыя ўзнікнення «Ліста 34-х».** Складаўшаяся ў Польшчы на пачатку 1960-х гг. сітуацыя, якая характарызавалася адсутнасцю свабоды слова і друку, пасіленнем цэнзуры, га-

**Козик Любовь Антоновна** — доцент кафедры истории южных и западных славян Белорусского государственного университета, кандидат исторических наук

неннямі на «рэвізіяністаў», якія асмельваліся выступаць з крытыкай партыйнай лініі і выказвацца на карысць лібералізацыі грамадска-палітычнага жыцця, выклікала незадаволенасць творчага асяроддзя. Неаднойчы адбывалася так, што кулуарнае абмеркаванне набалелых праблем перарастала ў бурныя дыскусіі на сходах творчых саюзаў. Так 18 студзеня 1964 г. у Варшаве адбылася пашыранае пасяджэнне Галоўнага праўлення Саюза польскіх пісьменнікаў (СПП), на якім прагучала крытыка працы гэтага аб'яднання, дзеянняў цэнзуры і культурнай палітыкі ПАРП. Пасля заканчэння сходу нефармальнае абмеркаванне было прадоўжана і з новай сілай успыхнула на агульнай сустрэчы Варшаўскага аддзялення СПП 5 лютага 1964 г., дзе найбольш востра прагучалі заявы аб недахопе паперы і ўмяшальніцтве цэнзуры ў творчы працэс [6, с. 79].

Асноўныя падзеі разгарнуліся 14 сакавіка 1964 г. У гэты дзень пісьменнік А. Слонімскі прыйшоў у канцылярыю прэм'ер-міністра Ю. Цыранкевіча і, не спадзеючыся на аўдыенцыю, пакінуў ліст наступнага зместу: «Абмежаванне выдзялення паперы на друк кніг і пасіленне ўмяшальніцтва цэнзуры ў прэсу стварае сітуацыю, якая пагражае развіццю нацыянальнай культуры. Ніжэй падпісаныя, прызнаючы існаванне грамадскай думкі, права на крытыку, свабодную дыскусію і верагодную інфармацыю за абавязковы элемент прагрэсу, і з прычыны грамадзянскай занепакоенасці, дабіваюцца змен у польскай культурнай палітыцы ў адпаведнасці з гарантаванымі ў канстытуцыі Польскай дзяржавы правамі і духам народу». Пад лістом стаялі подпісы Л. Інфельда, М. Дамброўскай, А. Слонімскага, П. Ясеніцы, Т. Катарбіньскага, Г. Кавальскай, У. Татаркевіча, Ю. Кшыжаноўскага, В. Сярпіньскага, К. Гурскага, К. Эйстрэйхера, Я. Кута, С. Піганя, С. Мацкевіча, Е. Туровіча, С. Кіселеўскага, П. Хэрца, Е. Анджэеўскага, М. Асоўскай, Я. Парандоўскага, М. Ваньковіча, А. Рудніцкага, З. Косак, Э. Ліпіньскага, Я. Шчэпаньскага, М. Фальскага, А. Важыка, А. Гейштара, Е. Загурскага, К. Выкі, М. Яструна, С. Дыгата, А. Сандаўэра, К. Куманецкага [7, k. 1]. Усе гэтыя людзі былі вядомымі навукоўцамі, пісьменнікамі, публіцыстамі, якія мелі вялікі аўтарытэт у польскім грамадстве і за межамі краіны. Ініцыятарам напісання ліста выступіў А. Слонімскі [8, s. 380].

Цікавымі падаюцца матывы ўчынку гэтых людзей. Пісьменнік С. Дыгат у размове з галоўным рэдактарам штотыднёвіка «Палітыка» М. Ракоўскім адзначыў, што не хацеў падпісваць ліст да прэм'ера, але не меў іншага выйсця, бо яго ведаюць як чалавека, які ўвесь час крытыкуе. У гэтай сувязі адмова ад подпісу магла б негатыўна адбіцца на яго рэнамэ [9, с. 140].

Не менш прыцягальная гісторыя пісьменніцы М. Дамброўскай. Пад прынесеным ёй Я. Ю. Ліпскім тэкстам стаяла шмат прозвішчаў вядомых пісьменнікаў і навукоўцаў, што, магчыма, ускосна паўплывала на прыняцце ёю рашэння падпісаць зварот (у яе жыцці гэта быў другі і апошні зварот, да якога яна далучылася). Спроба М. Дамброўскай паставіць подпіс у канцы спіса сутыкнулася з незвычайнай просьбай: «...вось тут пасля [подпісу] Інфельда атрымаўся вялікі прабел. Ці маглі б Вы, каб ліквідаваць яго, паставіць подпіс у гэтым месцы?» Пісьменніца адзначыла ў сваім дзённіку, што без роздуму так і зрабіла, і толькі пазней падумала, што гэта быў вельмі «наіўны манеўр — атрымаць мой подпіс на так званым "першым" месцы» [10, s. 169].

Два тыдні не было ніякага адказу на ліст з канцылярыі прэм'ера, хаця ў калідорах улады ўчынак польскіх інтэлектуалаў актыўна абмяркоўваўся. Магчыма, нейкая афіцыйная рэакцыя з'явілася б з цягам часу, але неўзабаве пасля перадачы дакумента Цыранкевічу копія зместу трапіла да аднаго з журналістаў Агенцтва Франс Прэс, які вырашыў даць ёй ход [1] [7,

[1] Распаўсюджанне зместу «Ліста 34-х» ішло некалькімі шляхамі. Польскія спецслужбы, напрыклад, вызначылі, што 17 сакавіка копія трапіла на адзін з канспірацыйных адрасоў парыжскага часопіса «Культура», аднак, хто яе выслаў, яны не ведалі. З іншага боку, яны атрымалі інфармацыю, што адзін з французскіх карэспандэнтаў у Варшаве выслаў у Парыж тэкст «Ліста 34-х» звычайнай поштай, а перад гэтым пазнаёміў з ім іншых замежных журналістаў [7, k. 201, 202].

k. 201]. Упершыню, 25 сакавіка 1964 г., тэкст ліста агучыла Агенцтва Рэйтэр, пасля чаго інфармацыю распаўсюдзілі іншыя СМІ. Аднак найбольшае абурэнне польскага кіраўніцтва выклікаў той факт, што 28 сакавіка змест звароту разам з прозвішчамі тых, хто яго падпісаў, прагучаў у перадачы радыёстанцыі «Свабодная Еўропа». Падчас выпуску журналісты заявілі, што на гэтых асоб пачаліся ганенні. У прыватнасці, было сказана пра негалоснае распараджэнне ніяк не згадваць у СМІ як мінімум 12 з 34 чалавек, адмаўляцца ад супрацоўніцтва з імі, зняць творы некаторых пісьменнікаў з друку [11, k. 56].

У самой Польшчы адным з першых са зместам «Ліста 34-х» пазнаёмілася студэнцтва. Распаўсюдзіў яго выпускнік гістфака Варшаўскага ўніверсітэта Е. Новак, які атрымаў тэкст непасрэдна ад Слонімскага. Праўда апошні папярэдзіў аб тым, што ліст да прэм'ера можна паказаць самым блізкім знаёмым [5, с. 83]. Аднак, як бывае ў падобнай сітуацыі, кола такіх людзей увесь час пашыралася. Паведамленне радыёстанцыі «Свабодная Еўропа», перадачы якой старанна заглушаліся ў ПНР, знайшло жывы водгук у польскім грамадстве. Па ўсёй краіне пачалося актыўнае абмеркаванне як прагучаўшай інфармацыі, так і зместу ліста, падпісаўшых яго асоб і ў цэлым сітуацыі, якая склалася. У гэтых умовах партыйна-дзяржаўнае кіраўніцтва Польшчы не магло, як і раней, захоўваць маўчанне.

**Рэакцыя польскіх партыйна-дзяржаўных органаў на ліст да прэм'ер-міністра.** Першым крокам польскіх улад стаў арышт 23 сакавіка 1964 г. Я. Ю. Ліпскага, які збіраў подпісы і рабіў копіі ліста, і правядзенне ў яго кватэры вобыску. У абарону публіцыста выступіў А. Слонімскі, які разам з М. Асоўскай і С. Кіселеўскім з'явіўся ў гарадской пракуратуры і ўзяў усю адказнасць на сябе. Як адзначала М. Дамброўская, гэта быў учынак «сапраўднага джэнтельмена». Але варта згадаць, што ў адрозненне ад малавядомага ў той час Ліпскага Слонімскі быў лаўрэатам дзяржаўнай прэміі, меў моцную пазіцыю, а таму мог спадзявацца на ліберальнае стаўленне да сваёй асобы. Тым не менш у яго доме быў праведзены вобыск, падчас якога забралі перапіску, некалькі нумароў парыжскай «Культуры» і амаль усю бібліятэку [10, с. 177].

Упершыню стаўленне кіраўніцтва партыі да «Ліста 34-х» і асоб, якія яго падпісалі, было публічна акрэслена 3 красавіка 1964 г. Падчас сустрэчы з галоўнымі рэдактарамі асноўных варшаўскіх выданняў, радыё і тэлебачання было заяўлена аб прыняцці рашэння забараніць выезд за мяжу А. Слонімскага і Я. Кота («гэта ў іх жа інтарэсах» і «адначасовае пакаранне») і адмовіць дзевяці асобам (Слонімскаму, Коту, Ясеніцы, Яструну, Хэрцу, Мацкевічу, Важыку, Анджэеўскаму, Гейштару) у публікацыі твораў. Адначасова сакратар ЦК А. Старэвіч адзначыў, што «кіраўніцтва [партыі] стварае ўмовы для тых, хто пажадае адмовіцца ад гэтага ліста». Прычым гаворка ішла не пра змест, а пра факт яго перадачы на Захад [9, s. 142].

Наступным крокам партыйна-дзяржаўных органаў стала арганізацыя 8 красавіка сустрэчы прэм'ер-міністра Ю. Цыранкевіча з 13 асобамі, якія падпісалі ліст [2]. Слонімскага, як галоўнага арганізатара, на яе не запрасілі. Старшыня ўрада заявіў пра сваё абурэнне фактам перадачы дакумента на Захад да таго моманту, як ён даў адказ. У сваю чаргу прысутныя пісьменнікі і навукоўцы выказалі прэтэнзіі да існуючай у галіне культуры сітуацыі. Сярод іх былі закрыццё шэрагу часопісаў і ў гэтай сувязі неабходнасць заснавання новых выданняў на высокім навуковым і інтэлектуальным узроўні, умяшальніцтва цэнзуры ў літаратурныя і навуковыя творы. Пад ціскам аргументаў прэм'ер змяніў тактыку размовы. Прысутная Г. Кавальская занатавала ў дзённіку: «Цыранкевіч заявіў, што зараз будзе гаварыць не як прэм'ер, а як звычайны гарадскі чалавек... ён бачыць ва ўсёй гэтай справе зайздрасць Слонімскага да

[2] Сярод прысутных былі Е. Анджэеўскі, С. Дыгат, Т. Эйстрэйхер, А. Гейштар, Т. Катарбіньскі, Г. Кавальская, Ю. Кшыжаноўскі, Я. Ліпіньскі, Я. Парандоўскі, А. Рудніцкі, Я. Шчэпаньскі, К. Выка, Е. Загурскі. Запрошаная на сустрэчу М. Дамброўская адсутнічала, бо высланая па яе машына забуксавала [11, k. 103].

[арганізацыі] юбілею і [уручэння] ордэна Івашкевічу. А тыя, хто пагадзіўся падпісаць той ліст, дазволілі сябе выкарыстаць» [8, s. 383— 385]. Такая тактыка падзелу на ініцыятараў ліста і тых, хто яго падпісаў, актыўна стала ўжывацца партыйна-дзяржаўным кіраўніцтвам у прапагандысцкіх мэтах. Пры гэтым яно ўвесь час падкрэслівала, што апошнія былі выкарыстаны ў чужых інтарэсах.

**Пратэст заходняй супольнасці супраць рэпрэсій у Польшчы і рэакцыя на яго ў краіне.** Інфармацыя пра рэпрэсіі супраць аўтараў «Ліста 34-х» хутка распаўсюджвалася як у Польшчы, так і за яе межамі. У выніку 18 красавіка брытанскія інтэлектуалы, сярод якіх былі Г. Мур, С. Спендер, А. Баллак, А. Кёстлер і інш., надрукавалі ў газеце «Таймс» зварот у абарону праследуемых. Гэтую ініцыятыву падтрымалі прадстаўнікі іншых заходнееўрапейскіх краін, што стала апошняй кропляй у цярпенні польскіх улад. Кіраўніцтва Польшчы расцаніла публікацыю як умяшальніцтва ва ўнутраныя справы краіны, але не магло адрэагаваць па афіцыйных каналах. Па прычыне гэтага яно пачало акцыю збірання подпісаў пад пратэстам супраць публікацыі ў Вялікабрытаніі.

24 красавіка 1964 г. у Варшаве адбыўся сход Прэзідыўма СПП. На яго былі запрошаны амаль усе пісьменнікі, якія падпісалі ліст да прэм’ера. Пасяджэнне вёў намеснік старшыні Е. Путрамент. Ён зачытаў прысутным апублікаваны ў газеце «Таймс» зварот брытанскіх інтэлектуалаў і «польскі адказ», які неабходна было хутка падпісаць, бо «праз две гадзіны ў Лондан вылятае пасол Рудзіньскі, які забярэ гэтае пасланне». У прапанаваным тэксце адзначалася, што «справы, якія мы закранулі ў лісце да прэм’ера ўраду Польскай народнай рэспублікі..., а потым падчас сустрэчы з ім... маюць унутраны характар. Яны датычацца некаторых момантаў у развіцці культуры ў краіне, дзе за апошнія дваццаць гадоў адбылася глыбокая культурная рэвалюцыя, дзякуючы якой асвета і навука сталі даступнымі ўсім грамадзянам. Мы шкадуем, што гэта справа стала падставай для арганізацыі супраць нашай краіны кампаніі, якая базуецца на ілжывай інфармацыі, што распаўсюджваецца ў заходненямецкім друку і на радыёстанцыі «Свабодная Еўропа». Мы сцвярджаем, што не ведаем, каб хто-небудзь з тых, хто падпісаў ліст да прэм’ера, быў зараз пазбаўлены права выкладаць ці выдаваць свае кнігі» [7, k. 169]. Пісьменнікі, якія прысутнічалаі на сходзе, звярнулі ўвагу Путрамента на тое, што напісаны тэкст быў дрэнным па сваёй сутнасці і стылістыцы, а таму можа пашкодзіць польскім інтарэсам. У гэтай сувязі ніхто з іх, нягледзячы на мольбы Путрамента кшталту «мяне б’юць з абодвух бакоў», не пагадзіўся падпісаць яго [10, s. 189].

Такую ўпартасць праявілі не ўсе. 28 красавіка ў рэдакцыю газеты «Таймс» быў перададзены згаданы тэкст, які атрымаў назву «Ліст 10». Яго падпісалі навукоўцы А. Гейштар, К. Гурскі, Л. Інфельд, Ю. Кшыжаноўскі, К. Куманецкі, Э. Ліпскі, В. Сярпіньскі, Я. Шчэпаньскі, У. Татаркевіч і К. Выка [3] [7, k. 169].

Заява пра адсутнасць рэпрэсій у краіне не адпавядала рэчаіснасці. У гэтай сувязі ўзнікае пытанне пра матывы тых, хто падпісаў ліст, і тых, хто адмовіўся гэта зрабіць. Часткова адказ можна знайсці ў нататцы міністра культуры і мастацтва Т. Галіньскага пра размову з А. Слонімскім. У ёй адзначаецца, што апошні адмовіўся падпісваць які-небудзь пратэст да заходніх СМІ, бо «ніхто на Захадзе не паверыць, што мы зрабілі гэта па ўласнай ініцыятыве», пацвердзіў выказванні «Свабоднай Еўропы» наконт рэпрэсій («забралі пашпарт у Сандаўэра і жонкі Кота, канфіскавалі эсэ Кота ў «Твурчасці» [часопіс. — *Л. К.*], забаранілі мне пісаць да [часопіса] «Шпількі», адмовілі ў выступленні на радыё і тэлебачанні»). Слонімскі настойваў,

[3] У канцы красавіка 1964 г. М. Дамброўская сустракалася з рэдактарам газеты «Жычэ Варшавы» Х. Каратыньскім. Напрыканцы размовы апошні паказаў ёй тэкст «Ліста 10» з тым, як зразумела пісьменніца, каб яна падпісала яго. Аднак, прачытаўшы змест, яна адказала: «Гэтыя прафесары паводзяць сябе не як прафесары, а як школяры ці хлопцы з пачатковай школы, якія падымаюць руку і крычаць: “Прабачце, гэта не я, я нічога не ведаў, я сапраўды нічога не ведаю”» [10, с. 186].

што розгалас атрымаў не столькі ліст да прэм'ера, колькі рэпрэсіі, якія пачала выкарыстоўваць улада [7, k. 7— 8)].

Спробу зразумець пазіцыю навукоўцаў можна знайсці ва ўспамінах аднаго з заснавальнікаў і дырэктара польскай службы радыёстанцыі «Свабодная Еўропа» Я. Новак-Езераньскага. Ён адзначыў: «Вучоныя знаходзіліся ў больш складанай, чым пісьменнікі, сітуацыі. Ім пагражала не толькі страта магчымасці працаваць па спецыяльнасці. Яны адказвалі за свае навуковыя пляцоўкі» [цыт. па: 4, s. 212]. Адначасова з гэтым вядома, што на некаторых навукоўцаў аказвалі ціск. Так, напрыклад, Я. Шчэпаньскі падпісаў ліст пасля таго, як «просьбамі і пагрозамі яго апрацаваў [міністр унутраных спраў] Мочар» [цыт. па: 5, s. 325].

Арганізаваўшы наступ на пісьменнікаў і навукоўцаў, якія накіравалі ліст да прэм'ер-міністра, кіраўніцтва краіны зрабіла акцэнт не на факце існавання дакумента, а на яго перадачы за мяжу. Менавіта апошняе выклікала найбольшае абурэнне польскіх партыйна-дзяржаўных дзеячаў, пра што сведчаць іх шматлікія выказванні на з'ездзе пісьменнікаў заходніх і паўночных зямель, IV з'ездзе ПАРП, на варшаўскай партыйнай канферэнцыі, шматлікіх пасяджэннях, падчас кулуарных размоў.

**Перамовы партыйна-дзяржаўных дзеячаў з кіраўніцтвам СПП і польскім ПЭН-клубам.** 28 красавіка 1964 г. старшыня СПП Я. Івашкевіч звярнуўся да першага сакратара ЦК ПАРП У. Гамулкі з просьбай аб арганізацыі сустрэчы з прадстаўнікамі прэзідыума Галоўнага праўлення СПП. Размова, у якой прымалі ўдзел пісьменнікі Я. Івашкевіч, Ч. Цэнткевіч, А. Малішэўскі, Е. Путрамент, Я. М. Гізгес і Е. Турандот, адбылася 4 мая ў будынку ЦК ПАРП у прысутнасці члена палітбюро і сакратара ЦК З. Клішко і кіраўніка аддзела культуры В. Красько. Сярод пытанняў, якія абмяркоўваліся з Гамулкам, была і справа санкцый у дачыненні да тых, хто падпісаў «Ліст 34-х». Партыйны лідар прадставіў сваё бачанне сітуацыі. Ён цалкам зняў адказнасць з кіраўніцтва СПП і заявіў, што не ўсе факты ў лісце да Цыранкевіча адпавядаюць рэчаіснасці. У прыватнасці, Гамулка абвінаваціў аўтараў у тым, што яны нічога не сказалі пра аб'ектыўныя прычыны абмежавання паперы на выданне кніг, а «прычыны — аб'ектыўныя», і не пагадзіўся з нібыта ўзмоцненым умяшальніцтвам цэнзуры («мы не выдавалі ніяк дырэктыў у гэтым накірунку»). Ён адзначыў, што першапачаткова гэта быў «ліст для "Свабоднай Еўропы", для варожых Польшчы дыверсійна-разведвальных колаў». Такім чынам Гамулка даў зразумець, што не збіраецца адступаць. У выніку размовы абодва бакі сышліся на тым, што справу «Ліста 34-х» неабходна абмеркаваць на сходзе Варшаўскага аддзялення СПП [12, k. 9— 10, 25].

На пачатку мая партыйна-дзяржаўнае кіраўніцтва звярнулася да польскага ПЭН-клуба з просьбай заняць пазіцыю ў справе «Ліста 34-х», тым больш што 15 красавіка 1964 г. Міжнародны камітэт выканкама гэтай арганізацыі прыняў рэзалюцыю, у якой салідарызаваўся з пунктам гледжання радыёстанцыі «Свабодная Еўропа». Спроба правесці на бліжэйшым пасяджэнні (4 мая) ПЭН-клуба праўрадавы праект пастановы скончылася правалам. У выніку дыскусіі была прынята рэзалюцыя, прапанаваная старшынёй Я. Парандоўскім. У ёй у спакойным тоне адзначалася, што польскі ПЭН-клуб сам разбярэцца ў сітуацыі, якую абмяркоўваў і працягвае абмяркоўваць з партыйнымі ўстановамі, і выказвалася спадзяванне, што рэзалюцыя Міжнароднага выканкама не будзе перададзена сродкам масавай інфармацыі. Такая фармулёўка не задаволіла партыйнае кіраўніцтва краіны, якое прадпрыняла ўсе меры для таго, каб тэкст прынятай рэзалюцыі не трапіў да адрасата, і запатрабавала правесці новы сход [7, k. 216— 219, 222— 223]. Івашкевіч у знак пратэсту супраць, як ён лічыў, несправядлівых абвінавачанняў у яго адрас, выйшаў са складу праўлення ПЭН-клуба [5, s. 330].

**«Ліст 600».** Улады вырашылі не спыняцца на «Лісце 10», у сувязі з чым дзяржаўная прапагандысцкая машына набірала сілу. Яе чарговымі крокамі сталі арганізацыя збору подпісаў пад так званым «Лістом 600» (ініцыятыва распачалася 9 мая 1964 г.) і з'яўленне крытычных артыкулаў у адрас аўтараў «Ліста 34-х». Тэкст «контрліста» (яго стваральнікамі былі прад-

стаўнікі ЦК ПАРП А. Старэвіч, З. Клішко і В. Красько) быў простым: «Мы, ніжэй падпісаныя пісьменнікі, выказваем рашучы пратэст супраць арганізаванай на старонках заходняй прэсы і на хвалях дыверсійнай радыёстанцыі "Свабодная Еўропа" кампаніі, мэтай якой з'яўляецца ачарненне Польшчы. Мы выступаем супраць чужога ўмяшальніцтва ў нашы ўнутраныя праблемы, у нашу культурную палітыку, якая з'яўляецца сумеснай справай творчай інтэлігенцыі і палітычнага і дзяржаўнага кіраўніцтва краіны» [цыт. па: 5, s. 326].

Справу збору подпісаў даверылі выканкаму Галоўнага праўлення СПП і асабіста Е. Путраменту. У выніку праведзенай работы быў падрыхтаваны спіс шасцідзесяці партыйных і васьмідзесяці чатырох беспартыйных пісьменнікаў-кандыдатаў на падпісанне ліста [5, s. 326]. Усяго да восені 1964 г. пад пратэстам падпісалася 628 чалавек [7, k. 209]. Пры гэтым каля 400 чалавек, сярод якіх было каля 60 членаў партыі, адмовіліся далучыцца да яго. Пра прапагандысцкі характар «Ліста 600» сведчыць той факт, што не заўсёды пісьменнікі ведалі тэкст, пад якім падпісваліся, альбо нечакана знаходзілі сваё прозвішча сярод падпісаўшых яго. Сярод «падтрымаўшых ініцыятыву» быў, напрыклад, памёрлы Л. Кручкоўскі [5, s. 327].

Прычыны прыняцця рашэння аб подпісе «Ліста 600» былі розныя. Некаторыя пісьменнікі не хавалі сваёй крыўды, што ім не прапанавалі падпісацца пад «Лістом 34-х», іншыя шчыра выступалі супраць прапаганды «Свабоднай Еўропы» (хаця ў кулуарах зласліва гаварылі, што «Ліст 600» — гэта спіс тых асоб, якія з'яўляюцца аматарамі гэтай радыёстанцыі), частка проста баялася патрапіць пад рэпрэсіі. Між іншым, як адзначаў пісьменнік Т. Канвіцкі, «партыйныя ўлады прызналі справу падпісання [«Ліста 600»] свайго роду плебісцытам лаяльнага стаўлення да партыі і Народнай Польшчы» [11, k. 119]. Яны ўважліва адсочвалі як тых, хто пагадзіўся, так і тых, хто адмовіўся падпісаць «контрліст».

**Рэакцыя творчага асяроддзя на сітуацыю вакол «Ліста 34-х».** Як адзначыла ў сваім дзённіку Г. Кавальская, «Ліст 34 знайшоў большы водгук у грамадстве, і значна меншы ў пісьменніцкай суполцы, якая больш перажывала за тое, што змяншаюцца ганарары» [8, s. 390]. Тым не менш справа «Ліста 34-х» абмяркоўвалася і ў літаратурным асяроддзі, галоўным чынам у Варшаўскім і Кракаўскім аддзяленнях СПП. Калі ў першым меркаванні падзяліліся, то ў другім ідэя выслання ліста да прэм'ер-міністра ацэньвалася пераважна негатыўна [4, s. 208].

26 чэрвеня 1964 г. адбыўся сход Варшаўскага аддзялення СПП, на якім з вялікай прамовай у справе «Ліста 34-х» выступіла М. Дамброўская. Яна звярнула ўвагу на тое, што польскія чытачы змаглі пазнаёміцца з тэкстам толькі 27 мая ў часопісе «Вспулчэснасць». Гэта быў крытычны артыкул, дзе змест ліста быў скажоны, а прозвішчы аўтараў апушчаны. Пісьменніца адзначыла, што на працягу красавіка — мая на тых, хто падпісаў зварот, пачалося сапраўднае паляванне, якое суправаджалася хваляй нянавісці і варожага стаўлення. Іх абвінавачвалі ў «кароткім змесце», у адсутнасці павагі, у выкарыстанні фармулёўкі «аб "пагрозе для нацыянальнай культуры" ў эпоху яе шалёнага росквіту». Акрамя таго, Дамброўская звярнула ўвагу на агрэсіўную кампанію ў друку, выказванні партыйных дзеячаў, якія імкнуліся прадставіць справу як авантуру двух- трох чалавек, каторыя заманілі іншых і спадзяваліся на вялікі розгалас за мяжой. Пісьменніца аспрэчыла такія ацэнкі. Яна адзначыла, што галоўныя ідэі ліста былі выказаны яшчэ на студзеньскім 1964 г. пасяджэнні Галоўнага праўлення СПП, інфармацыя аб працы якога не знайшла адлюстраванне ў польскіх СМІ. Што тычыцца радыёперадачы «Свабоднай Еўропы», то яна выйшла толькі ў канцы сакавіка і зрабіла акцэнт на рэпрэсіях і дыскрымінацыі аўтараў, а не на змесце [7, k. 173—184].

Не абмінула Дамброўская і «Ліст 600», змест якога, у адрозненне ад «Ліста 34-х», быў шырока распаўсюджаны ў СМІ, але так і не знайшоў водгуку за мяжой. Большасць з тых, хто падпісаў яго, не ведалі сутнасці ліста да прэм'ера, не чулі перадачы «Свабоднай Еўропы» і не чыталі заходняй прэсы. Такім чынам, матывы іх учынку, як адзначыла Дамброўская, з'яўляюцца цмянымі. Згадала пісьменніца і старшыню СПП Я. Івашкевіча, які, на яе думку, заняў

пазіцыю «на ўзбоччы» і нават не паспрабаваў разабрацца ў сутнасці справы, стаць пасрэднікам у склаўшайся сітуацыі. Ацэньваючы ў цэлым пазіцыю людзей, якія падпісалі ліст да прэм'ера, а частка з іх і ліст да рэдакцыі газеты «Таймс», Дамброўская адзначыла, што, за выключэннем аднаго чалавека[4], ніхто не адазваў свой подпіс з-пад тэксту «Ліста 34-х» і не заявіў, што памыліўся ў сваім учынку. Гэта, на яе думку, сведчыла пра аб'ектыўнасць прэтэнзій да ўлады [7, k. 185— 193].

Выступленне Дамброўскай, дадатным бокам якога была «дакладнасць у падборы фактаў, а таксама зразумеласць і дакладнасць аргументаў», выклікала хвалю эмоцый, якія знайшлі адлюстраванне ў дыскусіі [13, s. 197]. Але яна не выявіла, на чыім баку — аўтараў ліста да прэм'ера ці іх праціўнікаў — была перавага.

**Партыйны «адказ» М. Дамброўскай.** Прамова вядомай пісьменніцы, якая лічылася маральным аўтарытэтам творчага асяроддзя, моцна закранула самалюбства партыйнага кіраўніцтва, асабліва У. Гамулкі, а таму было відавочна, што яно пажадае публічна выказацца. Такую магчымасць даваў прызначаны на верасень 1964 г. XIV агульны з'езд СПП, але прысутны на ім Гамулка фактычна не закрануў сітуацыю, якая склалася вакол ліста да прэм'ерміністра [12, k. 285.]. Прычын гэтага магло быць некалькі: перасцярогі Івашкевіча, які раіў не закранаць тэму «Ліста 34-х» [11, k. 98— 101], данясенні польскіх спецслужбаў аб настроях сярод пісьменнікаў альбо ўжо прынятае рашэнне даць адказ у іншы час і ў іншых абставінах.

Як данасілі польскія спецслужбы, напярэдадні XIV з'езда СПП размовы вакол «Ліста 34-х» сціхлі. Адначасова з гэтым тыя, хто падпісаў яго, адчулі сябе «ў сядле» і зразумелі, што «зноў прыйшоў час, калі народ глядзіць на іх пазіцыю і паводзіны. Адчулі сябе духоўнымі павадырамі народу і не могуць яго падвесці» [11, k. 184]. Пры гэтым у прыватных размовах пісьменнікі падкрэслівалі, што зоймуць на з'ездзе нейтральную пазіцыю (ці пазіцыю чакання? — *Л. К.*), калі партыйныя дзеячы не будуць выступаць з крытыкай. У цэлым жа дэлегаты спадзяваліся на «адлігу» ва ўзаемаадносінах улады і творчай інтэлігенцыі, лібералізацыю рашэнняў, прынятых на XIII пленуме ЦК ПАРП, але гэта былі дарэмныя спадзяванні [14, k. 12— 17].

Фактычна абышоўшы ўвагай на XIV з'ездзе СПП сітуацыю вакол «Ліста 34-х», Гамулка пакінуў сабе права на адказ Дамброўскай. Ён асабіста падрыхтаваў тэкст выступлення члена палітбюро, сакратара ЦК ПАРП З. Клішко на пасяджэнні партыйнай арганізацыі Варшаўскага аддзялення СПП 5 кастрычніка 1964 г. [11, k. 252—290]. Дамброўскай, якая на той момант была цяжкахворай, не было сярод прысутных, што, аднак, не перашкодзіла Клішко пасля зачытання стэнаграмы яе чэрвеньскай прамовы накінуцца з абвінавачваннямі ў адрас пісьменніцы. Галоўная «віна» апошняй заключалася ў тым, што яна паверыла некаторым з ініцыятараў ліста, не пракансультавалася з «кампетэнтнымі партыйнымі дзеячамі» і не прадаставіла ім тэксту свайго выступлення для папярэдняга азнаямлення. У гэтай сувязі Клішко паспрабаваў даць партыйную ацэнку падзей вакол «Ліста 34-х». Першым, на што ён звярнуў увагу, было амерыканскае грамадзянства М. Ваньковіча, у сувязі з чым польскія пісьменнікі павінны былі задумацца перад тым, як паставіць побач з ім свой подпіс. Акрамя гэтага, на думку Клішко, аўтары ліста не прыклалі намаганняў да арганізацыі сустрэчы з Цыранкевічам і, адпаведна, не адлюстравалі гэта ў тэксце. Больш таго, перадаўшы копію дакумента на Захад, яны далі ворагу інструмент для пасілення антыпольскай прапаганды, якая стварала «ў слухачоў уражанне, нібыта [«Свабодная Еўропа»] гаворыць ад імя тых, хто ліст падпісаў», а самі адмовіліся выступіць з пратэстам супраць гэтага. Нягледзячы на тое, што прамова Клішко была адказам на выступленне Дамброўскай, было відавочна, што вастрыню ўдара ён накіра-

[4] Яна мела на ўвазе К. Гурскага, які напісаў ліст да рэдактара «Жычэ Варшавы» Х. Каратыньскага. У гэтым лісце ён заявіў, што падпісанне звароту да прэм'ера было памылкай [7, k. 165—167; 11, k. 145; 10, c. 187].

ваў супраць А. Слонімскага, якога і абвінавацiў ва ўсіх смяротных грахах [7, k. 194—215]. Такім чынам, прадбачанне пісьменніцы, што яе словы будуць перавернутыя, а партыйныя чыноўнікі зразумеюць іх па-свойму, цалкам спраўдзілася [10, с. 212].

Выступленне Клішко прысутныя сустрэлі вельмі крытычна. Большасць з тых, хто падпісаў ліст да прэм'ера, дазволіла сабе рэзкія выказванні ў адрас прамоўцы як прадстаўніка афіцыйных улад. Так, напрыклад, Слонімскі, які выступаў адразу пасля Клішко, сказаў тое, пра што ўжо даўно гаварылі ў кулуарах: «Здабытае Кастрычнікам [меліся на ўвазе падзеі кастрычніка 1956 г. у Польшчы. — *Л. К.*] загінула, цэнзура заткнула людзям рот, са старонак літаратурных часопісаў зніклі вядомыя прозвішчы, кнігі выходзяць тыражом, які не задавальняе патрэбы чытачоў» [цыт. па: 4, с. 218]. Падсумоўваючы вынік сустрэчы, старшыня СПП Я. Івашкевіч адзначыў, што скліканне спецыяльнага сходу для «адказу Дамброўскай» не было неабходным і можа прывесці да новых выступленняў «Свабоднай Еўропы» супраць Польшчы [10, с. 249].

**Палітычныя настроі пісьменнікаў: партыйныя высновы.** У лістападзе 1964 г. на імя кіраўніка аддзела культуры В. Красько была накіравана нататка, у якой змяшчалася характарыстыка настрояў пісьменнікаў-членаў пярвічнай арганізацыі ПАРП Варшаўскага аддзялення СПП. У ёй адзначалася, што лінія падзелу выцякае не толькі і не столькі са стаўлення да партыйнага кіраўніцтва культурай ці «Ліста 34-х», колькі з іх стаўлення да падпісання «Ліста 600». У гэтай сувязі аўтары дакумента засяродзілі ўвагу на крытыках існуючай палітыкі (К. Брандыс, В. Варашыльскі і інш.), якіх рэкамендавалі выключыць з ПАРП, прычым раілі зрабіць гэта пад выглядам верыфікацыі членаў партыі [7, k. 25—29].

Яшчэ летам 1964 г. партыйныя інстанцыі пачалі праверку тых, хто адмовіўся падпісаць «Ліст 600». Такіх было каля 60 чалавек. Напачатку з імі правялі размовы, падчас якіх галоўнай мэтай з'яўлялася высвятленне прычын такой пазіцыі. А яны былі рознымі. Так, некаторыя сцвярджалі, што «Свабодная Еўропа» даўно вядзе варожую Польшчы прапаганду, а таму няма сэнсу пратэставаць толькі ў сувязі са справай вакол «Ліста 34-х». Іншыя гаварылі, што «Ліст 600» трэба хутчэй накіраваны супраць тых, хто падпісаў ліст да прэм'ера, а гэта значныя фігуры ў польскай літаратуры і культуры ў цэлым. Некаторыя прыкрываліся тым, што партарганізацыя не прыняла адпаведнай пастановы, а таму, як дысцыплінаваныя члены ПАРП, яны адмовіліся паставіць свой подпіс. Былі і такія, хто ўбачыў сярод падпісаўшых «Ліст 600» людзей, якія варожа ставяцца да партыі і ідэйна ёй чужыя, а таму пачуццё годнасці не дазволіла зрабіць аналагічны крок. Цікава, што былі і тлумачэнні кшталту «даўно было, што падпісвацца». Тым не менш па выніках размовы пяць чалавек пагадзіліся паставіць подпіс пад «Лістом 600» [7, k. 30— 36].

У канцы 1964 г. падавалася, што гісторыя «Ліста 34-х» вычарпала сябе. Аднак кіраўніцтва ПАРП не забывала пра яе і, як магло, імкнулася абмежаваць уплыў непакорных пісьменнікаў. Вынікам гэтага стаў, між іншым, той факт, што на з'ездзе СПП у 1965 г. большасць дэлегатаў не падтрымала і кандыдатуры тых, хто падпісаў ліст да прэм'ер-міністра, у члены праўлення СПП [8, с. 436].

**Высновы.** Такім чынам, гісторыя з «Лістом 34-х» паказала, што ва ўзаемаадносінах партыйнай улады і творчага асяроддзя ў сярэдзіне 1960-х гг. існавалі сур'ёзныя праблемы. Яны былі выкліканы імкненнем партыйна-дзяржаўнага кіраўніцтва Польшчы ўзмацніць кантроль за літаратурнай творчасцю. Рабілася гэта шляхам вызначэння «ідэалагічна правільных» крытэрыяў мастацкай дзейнасці і пасілення кантролю з боку цэнзуры. Частка дзеячаў культуры і навукі выступіла супраць такога ўздзеяння, крыўдавалася на тое, што партыя не давярае ім, спрабавала даказаць, што менавіта творчая інтэлігенцыя з'яўляецца сумленнем народу, абараняць які — яе святы абавязак. У гэтай сувязі «Ліст 34-х» можна лічыць адным з важных крокаў на шляху фарміравання грамадзянскай пазіцыі і грамадзянскай супольнасці ў пасляваеннай Польшчы.

## ЛИТЕРАТУРА

1. *Козик, Л. А.* Развитие послевоенной польской литературы в оценке В. Гомулки (по страницам доклада на XIII пленуме ЦК ПОРП в июле 1963 г.) / Л. А. Козик // Актуальные проблемы в изучении и преподавании общественно-гуманитарных наук (дисциплин): материалы I (Первой) Междунар. науч. конф., 2— 3 дек. 2010 г. Витебск : Витебский филиал УО ФПБ «МИТСО», 2010. С. 640— 641.

2. *Eisler, J.* List 34 / J. Eisler. Warszawa : Wydawnictwo Naukowe PWN, 1993. 124 s.

3. *Friszke, A.* Opozycja polityczna w PRL 1945— 1980 / A. Friszke. Londyn : Aneks, 1994. 608 s.

4. *Rokicki, K.* Sprawa «Listu 34» w materiałach MSW / K. Rokicki // Polska 1944— 1989. Studia i materiały. Zeszyt 7. Warszawa : Instytut Historii PAN, 2006. S. 197— 221.

5. *Bikont, A.* Lawina i kamienia. Pisarze wobec komunizmu / A. Bikont, J. Szczęsna. Warszawa : Prószyński i S-ka, 2006. 584 s.

6. *Волобуев, В. В.* Политическая оппозиция в Польше. 1956— 1976 / В. В. Волобуев. М. : Институт славяноведения РАН, 2009. 240 с.

7. Archiwum Akt Nowych (далей — AAN). 237/XVIII— 267. Komitet Centralny Polskiej Zjednoczonej Partii Robotniczej (далей — KC PZPR).Wydział Kultury. Notatki informacyjne itp. dot. sytuacji w środowisku twórców — «List 34» i in. 1964— 1967.

8. *Kowalska, A.* Dzienniki 1927—1969 / A. Kowalska. Warszawa : Wydawnictwo Iskry, 2008. 582 s.

9. *Rakowski, M. F.* Dzienniki polityczne / M. F. Rakowski. W 10 t. Warszawa : Wydawnictwo Iskry, 1998—2005. T. 2: 1963—1966. Warszawa, 1999. 473 s.

10. *Dąbrowska, M.* Dzienniki 1914— 1965 / M. Dąbrowska: w 13 t. T. 13. Warszawa, 2009. 299 s.

11. AAN. 1354/XIA—219. KC PZPR. Sekretariat W. Gomułki. Materiały W. Gomułki. 1962, 1964. Informacje o ZLP.

12. AAN. 1354/XIB— 230. KC PZPR. Sekretariat. Własne. Literaci.

13. *Kijowski, A.* Dzienniki 1955— 1969 / A. Kijowski / Wyb. i oprac. K. Kijowska, J. Błoński. Kraków : Wydawnictwo Literackie, 1998. 401 s.

14. AAN. 237/XVIII—291. KC PZPR.Wydział Kultury. Materiały nadesłane przez MSW. 1964, 1966.

## РЕЗЮМЕ

В статье показаны условия возникновения в 1964 г. письма 34 деятелей науки и культуры к премьер-министру ПНР, реакция на нее в западных средствах массовой информации, в партийных и государственных органах Польши, в творческих кругах. Автор подчеркивает, что «Письмо 34-х» стало первым шагом на пути к формированию гражданского общества в послевоенной Польше.

## SUMMARY

The conditions of appearing of the letter by 34 scientific and cultural figures to the Prime Minister of the Polish People Republic in 1964, the reaction to it in Western mass media, in Polish party and state structures, in artistic circles are considered in the article. The author emphasizes the idea that «The Letter by 34» was the first step on the way to formation of civil society in post-war Poland.

Статья поступила в редакцию 29 сентября 2010 г.